


ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS". Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 34 (113) Нядзеля 24 жніўня 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Чарговая палітычная авантура Астроўскага

Сваю перадапошнюю палітычную авантуру, цяжка сказаць каторую з чаргі, закончыў Астроўскі летам 1950 году, выдаўшы славутую адозву да беларускіх вайскавікоў, у якой заклікаў іх запісвацца ахвотнікамі на карэйскі фронт і задэкляроўваў, што на Карэі будзе ён у першых радох. Зразумела, адозвы такой ніхто сур'ёзна ня прыняў, за выключэньнем можа газэты «Українські Вісті», якая гасьцінна перадрукавала яе на сваіх балонах. Усе ўважалі, што Астроўскі, поўнасьцю абясслаўлены й усімі пакінуты, за выключэньнем жменькі такіх, як і сам авантурыстых, пастанавіў хоць гэтым даць аб сабе яшчэ раз знаць перад тым, як перайсьці на палітычную эмэрытуру. Прыпушчэньні гэтыя хутка спраўдзіліся, бо яшчэ таго-ж 1950 году Астроўскі выэміграваў у Аргентыну, дзе, з гледзішча на невялікую колькасьць беларускае эміграцыі й другарадную ролю Аргентыны ў сьвеце, не было ніякіх умоваў для шырэйшай палітычнай дзейнасьці. Здавалася тады, што Астроўскі на гэтым пастанавіў закончыць сваю бурлівую палітычную кар'еру.

Але тыя, што так думалі, моцна памыліліся. Калі апошнім часам пачало актывізавацца палітычнае жыцьцё сярод эміграцыяў з Усходу, калі палітычныя дзейнікі Захаду пачалі сур'ёзна цікавіцца, спрыяць і навет памагаць антыбальшавіцкаму змаганьню паняволеных бальшавізмам народаў, калі Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі пачаў аказваць значную палітычную й матарыяльную дапамогу антыбальшавіцкім рухам на эміграцыі, намагаючыся стварыць сярод палітычных эміграцыяў з Савецкага Саюзу супольны фронт актыўнага змаганьня з бальшавізмам, Астроўскі пастанавіў скарыстаць яшчэ раз з новай палітычнай каньюнктуры. Ён перад некалькімі тыднямі вяртаецца ўзноў у Нямеччыну, творыць із жменькі такіх-жа як і ён сам авантурыстых, толькі меншага й зусім малога калібру, ды людзей сумліўнай беларускасьці г. зв. «Беларускі Вызвольны Рух» на ўзор «Украінскага Вызвольнага Руху» — дадатку да расейскай уласаўскай адзінанедзялімаўскай арганізацыі СБОНР, раздаючы на права й на лева гойнай прэзыдэнцкай рукой афіцэрскія рангі, намагаецца прыцягнуць яшчэ жменьку наіўных і нацыянальна нявырабленых вайскавікоў і, апіраючыся на такі палітычны капітал, пачаў рабіць назойлівыя афэрты Амэрыканскаму Камітэту й даслоўна ўсім расейскім палітычным арганізацыям, якія супрацоўнічаюць у тварэньні заплянаванага Амэрыканскім Камітэтам палітычнага цэнтру. У той час, калі палітычныя арганізацыі нерасейскіх народаў, у тым ліку й Беларсукі Антыбальшавіцкі Фронт, што згадзіліся прыступіць да супольнага з расейцамі фронту пад умоваю загарантаваньня найбольш кардынальных іхных нацыянальных пазыцыяў, у вабароне якіх змагаюцца, Астроўскі зрабіў гэта шмат прасьцей: перад Амэрыканскім Камітэтам, як і расейцамі ён заявіў, што згаджаецца на ўсе чыста іхныя прапановы, абы толькі прынялі яго да сябе.

Нельга дакладна зразумець сяньняшняй ролі Астроўскага, ня прыпомніўшы хоць коратка ягонай палітычнай мінуўшчыні, бо сяньняшняя ягоная палітычная авантура зьяўляецца дакладнай копіяй многіх такіх авантураў, робленых на працягу ўсяе палітычнае ягонае дзейнасьці.

### З ПАЛІТЫЧНАЙ МІНУЎШЧЫНІ АСТРОЎСКАГА

Не зьяўляецца справай прыемнай капацца ў чыейсь мінуўшчыні, калі яна далёка ня ёсьць чыстай. Але паколькі ў дачыненьні да Астроўскага ягоная мінуўшчыня зьяўляецца сумай сьвядомых антынародных, пры гэтым найбольш бяспрынцыповых, цынічных і пэрфідных актаў, як і ягоная апошняя спроба сяньня, уважаем за патрэбнае трохі прыпадняць заслону часу, каб паказаць Астроўскага ня толькі такім, якім ён ёсьць сяньня, але й такім, якім быў заўсёды. Робім гэта ня дзеля папінфармаваньня беларускага грамадзянства, бо для апошняга справы гэтыя аж надта ведамыя, але дзеля чужых, як амэрыканцаў, гэтак і нацыянальных арганізацыяў іншых паняволеных народаў, якім Астроўскі набіваецца з сваімі ўслугамі.

Адгортваючы сьвежыя яшчэ балоны гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху за апошнія 30—35 год, калі ад часу да часу фігуруе асоба Астроўскага, дарма будзем намагацца знайсьці яго пры нейкай пазытыўнай грамадзкай або палітычнай працы, якая звычайна вымагае шмат цяжкасьцяў, ахвярнасьці, а навет небясьпекі. Таксама нідзе не заўважым, каб дзейнасьць Астроўскага вызначалася бесьперапыннай цягласьцю. Ня ў прыклад ідэйным працаўніком на ніве беларускага нацыянальнага вызваленьня, якія, ня гледзячы ні на ўмовы ні на палітычную каньюнктуру, упрагаліся у бесьперапынную нацыянальную работу, ён паяўляецца заўсёды на беларускім палітычным гарызонце, як мэтэор, раптоўна высоўваючыся на паверхню. Але, будучы праз нейкі час здэмаскаваным грамадзянствам у сваіх нясумленных і дывэрсыйных мэтах і скампрамітаваным у ягоных вачох, гэтак хутка зьнікае з палітычнае арэны, як і паяўляецца, каб за некалькі год, калі зьменіцца каньюнктура, паявіцца на ей узноў, але ўжо ў новай ролі й найчасьцей пры новым акупанту, якіх за апошні пэрыяд так многа зьмянілася на Беларусі.

На беларускай грамадзкай арэне ўпяршыню яго бачым у 1918 годзе, калі ён зьяўляецца дырэктарам беларускай гімназыі ў Слуцку. І там-жа ўпяршыню Астроўскі паказвае сваю бязідэйнасьць і палітычнае падхалімства. У гэты час набліжаўся да Случчыны зьненавіджаны беларускім народам польскі корпус генэрала Доўбар-Мусьніцкага — ведамага растрэльшчыка беларускіх сялянаў і падпальшчыка беларускіх вёсак. Астроўскі загадзя, каб прыслужыцца новай уладзе, што мела быць хутка ўстаноўленая ў гэтай часьці Беларусі, перамяняе беларускую гімназыю, якой быў дырэктарам, на польскую. За гэта, як і за іншыя нацыянальныя праступкі, беларускае грамадзянства Случчыны аб'явіла яму байкот.

Пасьля гэтага, будучы поўнасьцю скампрамітаваным, Астроўскі на даўжэйшы час сходзіць із сцэны, каб вынырнуць аж у 1924 годзе ў Заходняй Беларусі, калі сярод вялікай часьці беларускага грамадзянства распачалася арыентацыя на БССР. Ён становіцца адным зь вядучых лідэраў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, ейным скарбнікам і пасярэднікам паміж Грамадой і савецкімі ўладамі ў Менску, як і цэнтральным камітэтам нелегальнай у Польшчы камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У той час, калі іншыя правадыры Грамады, як, прыкладам, Б. Тарашкевіч, намагаюцца выкарыстаць бальшавікоў для чыста нацыянальных мэтаў і ўзмоцніць нацыянальны супраціў супраць узмоцненай палянізацыі, Астроўскі рэпрэзэнтаваў у Грамадзе тую мяншыню, якая пайшла на бескампрамісовую бальшавіцкую службу, уводзячы гэтым дывэрсыю ў грамадўскія рады.

У той час, будучы адначасна дырэктарам Віленскай Беларускай Гімназыі, ён зарганізаваў нелегальнае высыланьне беларускае студэнцкае моладзі ў БССР, аб чым нядаўна шырака пісалася на балонах «Бацькаўшчыны», а падрадкаваную яму вучнёўскую моладзь заганяў у твораныя ім-жа камсамольскія арганізацыі.

Калі ў 1926 годзе польскія ўлады ліквідуюць Грамаду, а ейных лідэраў, у тым ліку й Астроўскага, садзяць у вастрог, Астроўскі, каб ратаваць собскую скуру, раптоўна мяняе палітычны курс. Калі іншыя правадыры Грамады, ня больш вінаватыя ў сьвятле карнага кадэксу за Астроўскага, дастаюць па 12 год турэмнага зьняволеньня, Астроўскі быў польскім судом апраўданы. Выйшаўшы на волю, пераходзіць на службу польскага аддзелу бясьпечнасьці й узначальвае дывэрсыйны палянафільскі кірунак. І тую моладзь, якую яшчэ нядаўна ўцягваў у камсамол, выдае цяпер польскай паліцыі, якая садзіць яе ў турмы, дзе, атрымаўшы па некалькі год турмы, марнуе свае маладыя гады за кратамі, у бальшыні з прычыны маладога веку заломліваецца маральна. Гэты жахлівы Азэфаўскі паступак зь беларускай моладзьдзю зьяўляецца ў сваей пэрфіднасьці найбольш нягодным у цэлай палітычнай дзейнасьці Астроўскага. Прыходзіцца толькі дзівіцца прыроджанай стрыманасьці беларускага грамадзянства, якое, будучы на эміграцыі ў дэмакратычных умовах жыцьця, не зрабіла Астроўскаму публічнага грамадзкага суду за гэты непрабачальны праступак, тым больш, што на эміграцыі ёсьць сяньня ня толькі шматлікія сьветкі гэтага праступку, але й ягоныя ахвяры.

Трохі пазьней, калі ў Польшчы яшчэ болей абнаглеў антыбеларускі палянізатарскі курс, Астроўскі памагае палякам ліквідаваць беларускія гімназыі ў Клецку, Наваградку й Вільні. Закладае ў Вільні г. зв. Цэнтрасаюз, які, будучы экспазытурай польскай дэфэнзывы, памагае палякам ліквідаваць беларускае арганізацыйнае жыцьцё. Паводзіны Астроўскага спаткаліся з абурэньнем навет ягоных найбліжэйшых супрацоўнікаў, якія й абвінавачваюць яго перад польскім акружным судом у Вільні за растрату атрымліваных для Цэнтрасаюзу зь Віленскага Ваяводзтва грошаў і за дэмаралізацыю беларускае моладзі, уплывы й палітычнае падтрыманьне якой купляў за гэтыя-ж грошы. Але на суд Астроўскі зьявіўся з урадаўцам аддзелу бясьпечнасьці Віленскага Ваяводзтва, які заявіў, што ваяводзкі ўрад ня мае нучога супраць такога, а ня іншага дыспанаваньня Астроўскім атрымліванымі ад яго грашыма, у выніку чаго абвінавачаньне ў растраце грошаў суд мусіў адкінуць, затое засудзіў яго на сымбалічнае пакараньне за дэмаралізацыю моладзі. Страціўшы ўсякую павагу сярод беларускае моладзі, навет і той ейнай часткі, якую купляў за грошы, Астроўскі зьвярнуўся да настроенай праўрадава польскай моладзі ў Вільні, якая ў ягонай абароне выдала брашурку-часапіс «Млодзеж муві».

Калі палякі легальны беларускі рух у 1937—1939 г. г. поўнасьцю забаранілі, загнаўшы яго ў падпольле, Астроўскі, як ужо болей палякам непатрэбны, бо сваё заданьне нэгра выканаў, ізноў зьнік з палітычнага гарызонту, каб паявіцца нанова ў зьмененых палітычных абставінах — пры нямецкай акупацыі.

Калі немцы, аслабленыя на фронце й зьненавіджаныя беларускім народам, каб ратаваць сваё палажэньне, пайшлі на некаторыя ўступкі беларусам і стварылі г. зв. Беларускую Цэнтральную Раду, Астроўскі, добра немцам ведамы із сваей бяспрынцыповасьці й палітычнага апартунізму, назначаецца генэральным камісарам Беларусі генэралам СС фон Готбэргам на становішча ейнага прэзыдэнта. Свабода дзейнасьці Астроўскага на гэтым новым становішчы была, аднак, зьвязаная беларускім грамадзянствам, якое, пастанавіўшы выкарыстаць гэтую нямецкую ўступку для мэтаў нацыянальных, паслала ў склад сяброў Рады непахісных і ідэйных беларусаў. Але й на гэтым становішчы прысьвечвалі Астроўскаму не нацыянальныя беларускія інтарэсы, ня імкненьні бараніць беларускі народ перад фізыч-

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Савецка-кітайская канфэрэнцыя.** У панядзелак 18 жніўня распачалася ў Маскве савецка-кітайская канфэрэнцыя, у якой зь кітайскага боку прыймае ўдзел прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў камуністычнага Кітая Чу-Эн-Ляй супольна зь іншымі сябрамі свайго ўраду й высокімі афіцэрамі кітайскай арміі. Яшчэ не пададзена да ведама, якія пытаньні парушаюцца на канфэрэнцыі. Аднак дыпляматычныя абсэрватары заходняга сьвету аднагодна ўважаюць, што галоўнай тэмай канфэрэнцыі зьяўляюцца тры наступныя пункты: 1. Узгадненьне далейшага супольнага паступаньня абедзьвюх дзяржаваў у Карэі, 2. мерапрыемствы савецкага блёку супраць Японіі ў заходняй абароннай сыстэме і 3. цясьнейшае гаспадарскае прыядненьне чырвонага Кітая да СССР. У сваей заяве кітайскі прэм'ер-міністар сказаў: «Я моцна перакананы ў тым, што будучае разьвіцьцё нашага супрацоўніцтва прынясе яшчэ большы ўклад у мірнае разьвіцьцё нашых краінаў і цэлага сьвету. Калі кітайцы на працягу трох год пасьля заканчэньня дамашняй вайны перамаглі вялізарныя цяжкасьці, што наступалі з многіх бакоў, дык гэта мы ў першую чаргу заўдзячваем помачы Савецкага Саюзу».

**Масква супраць мірнага дагавору з Аўстрыяй.** Савецкі Саюз адкінуў прапазыцыю заходніх вялікадзяржаваў з 13 сакавіка 1952 заключыць скарочаны «малы дагавор» з Аўстрыяй, які-б зьмяшчаў у сабе толькі 8 пунктаў, і зажадаў узнаўленьня перагавораў у справе поўнага мірнага дагавору згодна пачатковага праекту.

**Пяцігадовы плян у Карэі.** У Паўдзённай Карэі 18 жніўня было паведамлена, што 22 сябры «УНЭСКО», харчовай і сельскагаспадарскай арганізацыі Задзіночаных Нацыяў і сусьветнай арганізацыі здароўя пачынаюць свае нарады з прадстаўнікамі паўдзённакарэйскага ўраду ў справе апрацаваньня пяцігоднага пляну адбудовы Паўдзённай Карэі, якая мае распачацца пасьля заканчэньня вайны.

**Саветы ня хочаць гандляваць з Захадам.** Гаспадарская камісыя Задзіночаных Нацыяў для Эўропы паведаміла 18 жніўня, што прадбачаная на 9 верасьня сёлета ў Жэнэве канфэрэнцыя ў справе ўсходня-заходняга гандлю мусіла быць адкліканай, бо Савецкі Саюз і сатэлітныя дзяржавы адмовіліся ад супрацоўніцтва ў гэтай справе. Паймення, дзяржавы савецкага блёку не адказалі на мэмарыял з 7 ліпеня, у якім сябры гаспадарскай камісыі ЗН прасілі прадставіць іхныя погляды на запрапанаваную канфэрэнцыю.

**Мосадэк націскае на прысьпяшэньне зямельнае рэформы.** Прэм'ер-міністар Пэрсыі Мосадэк 18 жніўня загадаў правінцыянальным ураднікам паклікаць на працягу 15 дзён прыбочныя рады дзеля ажыцьцяўленьня закону аб зямельнай рэформе. Хто гэтага распараджэньня ня выканае, будзе пазбаўлены свайго становішча. Гэтыя прыбочныя рады маюць складацца ў роўнай часьці зь зямляробскіх работнікаў, сялян і зямельных собсьнікаў. У Тэгеране паўтараюцца вулічныя закалоты й бойкі паміж камуністымі й нацыяналістымі.

**Францыя выканае свае абаронныя забавязаньні.** Францускі ўрад 14 жніўня ў афіцыяльным камунікаце падаў да ведама, што, ня гледзячы на адмову ЗША павялічыць у Францыі амэрыканскія ваенныя заказы, Францыя выканае свае забавязаньні перад арганізацыяй Атлянтычнага пакту. Паводля гэтых забавязаньняў, устаноўленых на Лізбонскай канфэрэнцыі, Францыя да канца 1952 году дасьць у распараджэньне збройных сілаў Атлянтычнага пакту 12 дывізыяў арміі й 27 дывізыёнаў лётніцтва.

**Бэльгія сваіх забавязаньняў ня выканае.** Паводля ўрадавага паведамленьня Бэльгія, у сувязі зь нядаўным скарачэньнем вайсковай службы з 24 дэ 21 месяца, сваіх забавязаньняў перад збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту поўнасьцю ня выканае. Яна будзе змушана зрэдукаваць гэтыя забавязаньні на 15%. Бэльгія будзе старацца выставіць, згодна пастановам Лізбонскай канфэрэнцыі, 3 эфэктыўныя дывізыі, але іхная сіла будзе зьніжана на 15% у дачыненьні да сілы, прадбачанай раней.

**Далейшая помач Захаду Югаславіі.** ЗША, Вялікабрытанія й Францыя пастанавілі даць Югаславіі далейшую гаспадарскую помач у суме 99 мільёнаў даляраў. З гэтага ЗША дадуць 78 мільёнаў, Вялікабрытанія 12 мільёнаў і Францыя 8,4 мільёнаў даляраў. Апрача гэтага Югаславія атрымае з ЗША вызатную ваенную помач.

**Югаславія й Захад.** Дяржаўны дэпартамант ЗША апублікаваў агляд югаславянскіх дачыненьняў да Захаду. У ім сьцьвярджаецца, што зрыў Югаславіі з Масквой і дапамога Югаславіі з боку Захаду былі важнымі фактарамі дзеля адхіленьня небясьпекі савецкай агрэсыі. Адным з канкрэтных гэтага прыкладаў было закрыцьцё югаславянскай граніцы для камуністычных партызанаў у Грэцыі. Гэта памагло завесьці ў Грэцыі парадак.

**Паправа брытанска-эгіпскіх дачыненьнаў.** Падчас таго, калі эгіпская армія й урад намагаюцца ажыцьцявіць мэты дзяржаўнага перавароту й умацаваць дасюлешнія ў гэтым кірунку заваяваньні ўнутры краіны, на вонкавым адрэзку зарысоўваюцца магчымасьці ўнармаваньня й палепшаньня дыпляматычных дачыненьняў між Вялікабрытаніяй і Эгіптам. Мае быць узгоднена, што брытанскі пасол у Каіры не канечна патрабуе ў сваіх дыпляматычных дачыненьнях ужываць тытулу для караля Агмэд Фуада, як «караля Єгіпту й Судану», але як для «дзяржаваў караля Фуада» з аднаго боку й «дзяржаваў яе маестату каралевы Альжбеты» — з другога.

**Перасьцярога перад супраціваам у Ўсходняй Нямеччыне.** Міністэрства для супольнанямецкіх пытаньняў заходнянямецкай рэспублікі перасьцерагло цераз радыё насельніцтва Ўсходняй Нямеччыны перад неразумнымі актамі супраціву, якія толькі прывядуць да зьнішчэньня камуністымі нямецкага нацыянальнага патэнцыялу. У перасьцярозе гаворыцца, што немцы павінны ўмацоўваць і перахоўваць нутраную незалежнасьць і сілы супраціву, якія не павінны быць сяньня аслабляныя, бо «немцы будуць у будучыні патрабаваць усіх сваіх сілаў дзеля задзіночаньня Нямеччыны».

**1,2 мільёнаў немцаў на Ўсходзе.** Нямецкае міністэрства для супольных справаў падало 19 жніўня да ведама, што колькасьць нямецкага насельніцтва ў прылучаных да Савецкага Саюзу (часьць Усходніх Прусаў) і Польшчы ўсходніх нямецкіх тэрыторыяў выносіць роўна 1,2 мільёнаў чалавек. Найбольшая колькасьць немцаў пражывае ў Сілезыі. Многія зь іх хочаць пераехаць у заходнянямецкую рэспубліку, але польскі камуністычны ўрад ставіць гэтаму вялікія перашкоды.

**Праграма 7-ай генэральнай асамблеі ЗН.** Сакратарыят Задзіночаных Нацыяў устанавіў парадак дня 7-ай генэральнай асамблеі ЗН, якая распачнецца ў Нью Ёрку 14 кастрычніка сёлета. Парадак дня будзе складацца з 65 пунктаў і абыймаць, між іншым, наступныя пытаньні: Прапановы азыяцка-арабскага блёку ў справе дыскусыі над францускай палітыкай у Тунісе й Мароко, інтэрнацыяналізацыя Ерузаліму, забарона Саветаў дасьледваньня магчымасьцяў правядзеньня агульнанямецкіх выбараў у «нямецкай дэмакратычнай рэспубліцы», савецкае вэто супраць прыняцьця ў ЗН 14 новых дзяржаваў, пытаньні разбраеньняў, палажэньне індыйцаў у Паўдзённай Афрыцы, пытаньні вольнасьці інфармацыі й людзкіх правоў, праблема палестынскіх уцекачоў і рэпатрыяцыя грэцкіх дзяцей.

# Чарговая палітычная авантура Астроўскага

(Заканчэньне)

ным вынішчэньнем з боку немцаў, хоць і меў не малыя магчымасьці гэтае абароны, але выключна ягоны асабісты інтэрас. І калі Беларуская Цэнтральная Рада, як і падпарадкаваныя ей арганізацыі нешта зрабілі пазытыўнага ў тыя цяжкія часы, дык было гэта зроблена не Астроўскім, але ідэйнымі сябрамі Рады, беларускім нацыянальным актывам, моладзьдзю й жаўнерамі Беларускае Краёвае Абароны, што арганізацыйна былі Радзе падпарадкаваныя.

Трэба гэтта адцеміць, што перадапошняя палітычная авантура Астроўскага, што прыпадала на 1948—1950 г. г. на эміграцыі, скончылася для яго найбольш бясслаўна. На бацькаўшчыне, маючы падтрыманьне тае ці іншае акупацыйнае ўлады, у інтарэсах якой дзеіў, ён заўсёды меў магчымасьць так доўга трымацца на паверхні палітычнага жыцьця, як доўга быў ён для яе патрэбным. Апінія беларускага грамадзянства ня мела тады бадай што ніякага station станоўчага голасу. Затое на эміграцыі, калі й здабываў ён вонкавае падтрыманьне з боку некаторых расейскіх колаў, то падтрыманьне гэтае насіла толькі палітычны характар, а не магло апірацца на сіле паліцыйнага штыха ані адміністрацыйнага ціску. Таму больш сьведамае й палітычна выробленае беларускае грамадзянства адразу дало яму станоўчы адпор, калі ў 1948 годзе распачаў нязвычайна дэструкцыйную дзейнасьць у Нямеччыне, а менш сьвядомая й палітычна недасьпелая частка нашай эміграцыі, што спачатку яго падтрымлівала, хутка пачала пакідаць ягоныя, ня вельмі шчыльныя рады, калі наглядна пабачыла ягоныя разбуральныя мэты. Таму пасьля двух год актыўнасьці, у 1950 годзе астаўся Астроўскі адзін з вузкім колам незавідных прыхільнікаў.

### УСЕ ДАРОГІ ВЯДУЦЬ ДА МЭТЫ

Сваю палітычную акцыю ў Нямеччыне распачаў Астроўскі ад візытаў эўрапэйскаму прадстаўніцтву Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі ў Мюнхэне, дзе, як даведваемся, быў ужо два разы й зложыў ад імя створанага ім-жа «Беларускага Вызвольнага Руху» абшырны мэмарыял. Гэты самы мэмарыял, значна згладжаны ў сваім заканчэньні й бяз доўгае літаніі лёзунгаў — «няхаў жыве!» — быў надрукаваны ў нумары другім ягонай газэціны «Незалежная Беларусь». Але з увагі на тое, што гэты мэмарыял ведамы ня ўсім беларусам, бо гэтая газэтка кальпартуецца выключна сярод прыхільнікаў Астроўскага ды рассылаецца ўва ўсе амэрыканскія ўстановы, а пашыраць яе сярод сьведамага беларускага грамадзянства ўважае Астроўскі — і зусім правільна — за бязмэтнае, задзержымся над ім трохі даўжэй.

На пачатку выказвае Астроўскі свой жаль, што Амэрыканскі Камітэт вядзе перагаворы з групай Абрамчыка, а байкатуе «адзінае законнае прадстаўніцтва беларускага народу», якім мае быць «пабудаваная на дэмакратычных прынцыпах Беларуская Цэнтральная Рада з прэзыдэнтам праф. Р. Астроўскім на чале, выбраным аднагалосна 1039 дэлегатамі 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу», і гэтым самым «толькі памагае аслабленьню задзіночаньня антыбальшавіцкага фронту народаў» і «памагае ліць чыстую ваду на паганы млын Сталіна ды яго, усімі зьненавіджанае палітбюро ВКП(б)». Далей Астроўскі за пасярэдніцтвам БВР зварочваецца да «кіраўніцтва Амэрыканскага Камітэту Вызваленньня Народаў Расеі, да міністэрства замежных справаў ЗДА, да ўсіх ворганаў Беларускага Вызвольнага Руху, а так-жа да ўсіх беларусаў, патрыётаў, антыбальшавікоў, салдатаў і афіцэраў былой Вызвольнай Арміі з наступным»:

»**1. Прасіць Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня Народаў Расеі перагледзіць сваю палітыку ігнараваньня так беларускага народнага прадстаўніцтва** (чытай: Беларускай Цэнтральнай Рады з Астроўскім — Рэд.), **як і кіраўніцтва Беларускага Рызвольнага Руху.**

**2. Прасіць міністэрства замежных справаў ЗДА зрабіць уплыў на дзейнасьць кіраўніцтва Амэрыканскага Камітэту . . .**

**3. Штабам Беларускага Вызвольнага Руху, па атрыманьні гэтага, неадкладна склікаць канфэрэнцыі сяброў арганізацыяў Беларускага Вызвольнага Руху ды ўсім аднадумна выступіць у вабароне інтарэсаў нашае нацыі ды вызвольнае барацьбы, так аслабленае Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі».**

І напасьледак у ўспомненым мэмарыяле знаходзім некалькі пунктаў, якія выражаюць палітычную праграму новастворнага «Беларускага Вызвольнага Руху» й гэтым самым сяньняшнюю праграму самога Астроўскага. Там сказана даслоўна, што:

**Беларускі Вызвольны Рух стаіць на плятформе супрацоўніцтва й дружбы з усімі паняволенымі народамі і яго сьвяты абавязак — давесьці ўсяму сьвету, што бальшавізм — гэта не народ». . . «Беларускі Вызвольны Рух у практыцы свае дзейнасьці не падзяляе якіх-бы ні было формаў і прынцыпаў утажсамліваньня народаў СССР з бальшавізмам. Бальшавізм ня ёсьць зьявішча чыста нацыянальнае, а выключна інтэрнацыянальнае». «Беларускі Вызвольны Рух ня зьбіраецца утажсамліваць палітыку шчыра дэмакратычных расейскіх арганізацыяў, якія змагаюцца супраць бальшавізму, зь бязумоўна агрэсыўнаю і імпэрыялістычнаю палітыкаю бальшавіцкага ўраду СССР, а так-жа некаторых, яўна таталітарных і шавіністычных арганізацыяў расейскае эміграцыі». «Усе народы СССР — расейцы, украінцы, беларусы, каўкасцы, татары, калмыкі й другія, у ваднолькавай ступені паняволеныя алігархіяй ВКП(б) . . .» «Усе народы СССР жывуць аднолькава цяжкім жыцьцём нявольнікаў бальшавіцкае імпэрыі, бяспраўных вязьняў ВКП(б), МВД-МГБ . . .» «Побач з гэтым Беларускі Вызвольны Рух мае надзею, што шчыра дэмакратычныя арганізацыі расейскае эміграцыі, у мэтах задзіночаньня антыбальшавіцкага фронту, у практыцы свае дзейнасьці падтрымаюць бясспрэчнае права кажнага паняволенага народу сяньняшняга СССР на яго поўнае незалежнае дзяржаўнае існаваньне . . .»**

Адначасна з гэтым Астроўскі зложыў візыты даслоўна ўсім расейскім палітычным арганізацыям, што прыймаюць удзел у прыгатаваўчай акцыі дзеля стварэньня супольнага зь нерасейскімі нацыянальнасьцямі палітычнага цэнтру, заяўляючы, што ён згаджаецца без найменшых засьцярогаў з усімі расейскімі пастулятамі ў нацыянальным пытаньні. Падчас канфэрэнцыі з найбольш бескампрамісовай шавіністычнай расейскай уласаўскай арганізацыяй СБОНР 17. 8. 1952 ён заявіў, што асабіста згаджаецца з праскім маніфэстам Уласава, але афіцыйна вызнаць яго пакуль што ня можа, бо тады можа ад яго адпасьці часьць ягоных прыхільнікаў у ЗША. А расейскай газэце «Голос Народа», якая зьяўляецца афіцыйным ворганам СБОНР, даў такое інтэрв'ю, што навет рэдакцыя ўважала за патрэбнае, каб лішне не кампраматаваць свайго эвэнтуальнага партнэра, гэтае інтэрв'ю, пасьля многіх вычырківаньняў, кінуць у рэдакцыйны кошык.

Гэткая палітычная плятформа Астроўскага сяньня. Для здабыцьця прыхільнасьці Амэрыканскага Камітэту й даверу сярод расейцаў, ён выказаў поўную гатовасьць пайсьці на ўсе іхныя дамаганьні, пацьвердзіў у сваім мэмарыяле іхны пункт гледжаньня, што бальшавізм не зьяўляецца расейскім нацыянальным зьявішчам і ня мае нічога супольнага з расейскім народам, што ў СССР аднолькава прасьледуецца расейскі народ, як і народы нерасейскія й г. п. Ня вымагаючы ад расейцаў ніякіх гарантыяў для нацыянальных інтарэсаў беларускага народу, яму дастаткова аднэй «надзеі», што «шчыра дэмакратычныя арганізацыі расейкай эміграцыі . . . у практыцы сваей дзейнасьці падтрымаюць бясспрэчнае права кажнага паняволенага народу сяньняшняга СССР на яго поўнае незалежнае дзяржаўнае існаваньне».

На колькі Астроўскі зьяўляецца здольным у залежнасьці ад патрэбы й каньюнктуры мяняць сваю палітычную лінію на цэлых 180 градусаў, няхай паслужыць нам ацэна намаганьняў Амэрыканскага Камітэту стварыць супольны з расейцамі фронт антыбальшавіцкага змаганьня, выказаная ў нерэгулярна выдаваным у ЗША воргане Астроўскага «Беларуская Трыбуна». У нумары 3—4 гэтае газэты за травень сёлета, г. зн. толькі тры месяцы таму назад, чытаем:

**«Спробы некаторых, з назвы дэмакратычных, груповак расейскае эміграцыі і іхных апякуноў з пад знаку Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі змантаваць г. зв. «Совет Освобождения Народов России» (СОНР) закончыліся агульным і поўным правалам. Не памаглі амэрыканскія даляры, псэўда-дэмакратычная фразэалёгія расейкіх палітыкаў ані супрацоўніцтва й помач, спэцыяльна падабраных, марыянэткавых «рэпрэзэнтацыяў» із каньюнктуральна-апартуністычных колаў г. зв. «нацыяналаў». СОНР памёр, не нарадзіўшыся.**

**Завуаляваны завесаю псэўдадэмакратычнае фразэалёгіі стары, нязьменны ў сваім зьмесьце маскоўскі імпэрыялізм, успамаганы прыватным капіталам некаторых амэрыканскіх «маларусаў», маючы на мэце і прасьледуючы не дабро і шчасьце народаў Савецкага Саюзу, а толькі й вылучна замену бальшавіцкага рэжыму і захаваньне цэласьці расейскае імпэрыі, напаткаў належна-здэцыдаваны адпор з боку запраўдных і правамоцных палітычных прадстаўніцтваў усіх нерасейскіх нацыяў савецкае турмы народаў.**

**І гэты рашучы адпор з боку легітымных палітычных прадстаўніцтваў усіх нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу ды згодная пастава агулу эміграцыяў гэтых народаў і былі прычынаю фіяска вісбадэнскае імпрэзы ды ўсяе акцыі адзінанедзялімскіх расейскіх «фэдэралістых». У гэтым згодныя ўсе, — так ініцыятары гэтае палітычнае акцыі з расейскага боку, як нэўтральная публічная апінія — так і палітычныя колы эміграцыі нерасейскіх народаў. Згодная контракцыя і байкот вісбадэнскай канфэрэнцыі легітымнымі й заправўднымі нацыянальнымі прадстаўніцтвамі ды рэальнымі, а не фікцыйнымі, палітычнымі групамі народаў: Каўказу, Туркестану, беларускага** (г. зн. Беларускай Цэнтральнай Рады, бо Беларускі Вызвольны Рух яшчэ тады не нарадзіўся — Я. К.) **і, будзьма аб'ектыўнымі, у першую чаргу ўкраінскага, забілі цьвек у труну СОНР-у».**

Вось дзьве зусім супярэчныя й узаемна сябе выключаючыя палітычныя плятформы аднэй і тэй самай палітычнай групы, ачоленай адным і тым самым лідэрам — Астроўскім. Вось дзьве палітычныя заявы, зробленыя аднэй і тэй самай палітычнай групай на працягу ўсяго толькі трох месяцаў. Ці-ж можа тады быць лепшы й больш пераконлівы доказ безідэйнасьці, беспрынцыповасьці, каньюнктурнасьці й палітычнага авантурызму Астроўскага?

На заклік, зьмешчаны ў мэмарыяле, каб «усе беларусы, патрыёты, антыбальшавікі, салдаты й афіцэры» прасілі Амэрыканскі Камітэт «перагледзіць сваю палітыку ігнараваньня беларускага народнага прадстаўніцтва (г. зн. Астроўскага й ягонай Цэнтральнай Рады — Я. К.), як і кіраўніцтва Беларускага Вызвольнага Руху», найбольш верныя «патрыёты» Астроўскага ня далі на сябе доўга чакаць. Пасыпаліся пэтыцыі й заявы ў Амэрыканскі Камітэт, індывідуальныя й груповыя, падпісаныя аўтэнтычнымі прозьвішчамі й псэўдонімамі (відаць, дзеля большага ліку подпісаў), у якіх паўтараецца тая самая стандартная просьба: не гаварыць зь «нерэпрэзэнтацыйнай» БНР, але толькі з Астроўскім і ягонай БЦР, як «адзінай законнай рэпрэзэнтацыяй беларускага народу». Некаторыя з гэтых заяваў зьмяшчаюць у сабе й даносчыцкія інсынуацыі, як, прыкладам, заява сябры савецкай рэпатрыяцыйнай місыі ў 1945 годзе Назарава з Бэтлі (Ангельшчына), зложаная 27. 6. 1952, у якой гаворыцца, што «Абрамчык зьяўляецца ведамым, як шпіён НКВД-ГПУ». А ў некаторых знаходзім і пікантныя звароты. Гэтак падпісаны выдуманым прозьвішчам Каліноўскі зь Мюнхэну, які падае сябе за перабежчыка зь Беларусі, хаця ў заправўднасьці зьяўляецца перабежчыкам з Польшчы й называецца зусім не Каліноўскім, у сваей заяве з 30. 7. 52, у такт цьверджаньня расейцаў, «аўтарытэтна» заяўляе, што, «на Беларусі ня існуе ніякага нацыянальнага руху». З гэтага мае быць вывад, што беларускі народ ня можа быць супраць «адзінай недзялімай» Расеі. А найбольш «патрыятычны» з усіх «патрыётаў» Астроўскага Попка піша 1. 8. 1952 да Амэрыканскага Камітэту даслоўна наступнае: «Хоць Згуртаваньне беларускіх патрыётаў поўнасьцю не згаджаецца з БЦР, але лічыць яе адзіна праўным прадстаўніцтвам беларускага народу. Калі вы (г. зн. Амэрыканскі Камітэт — Я. К.) ня хочаце гаварыць з БЦР, дык чаму тады адкідаеце супрацоўніцтва нашае, беларускіх патрыётаў?»

### АДНЫМ СТРЭЛАМ НЕКАЛЬКІ ЗАЙЦАЎ

Астроўскі, відаць, ня хоча выцягваць навукі з мудрай беларускай народнай прыказкі, што «пагнаўшыся за двума зайцамі, ня зловіш ніводнага». Ён паступае згодна іншай прыказкі, што «час — гэта грошы». Дык пастанавіў не марнаваць дарагога часу, але, на ўсякі выпадак, папрабаваць адначасна шчасьця ўсюды, дзе толькі можа яно ўсьміхнуцца. Таму й пагнаўся не за адным зайцам, і не за двума, як у той прыказцы, але аж за трыма, у надзеі, што хоць аднаго ды зловіць, што калі ня прыймуць у ваднэй арганізацыі, дык можа прыймуць у другой, калі ня ў другой, дык у трэцяй.

Бо вось адначасна з мэмарыялам у Амэрыканскі Камітэт ён складае за пасярэдніцтвам таго-ж Беларускага Вызвольнага Руху 20 чэрвеня сёлета такую-ж заяву на рукі віцэміністра замежных справаў Украінскай Нацыянальнай Рады Андрыеўскага, як старшыні г. зв. «Бюра канфэрэнцыі народаў Усходняй Эўропы, Каўказу й Туркестану», папулярна называнага «каардынацыйным цэнтрам», які быў заініцыяваны ўкраінцамі з мэтаю апазыцыі да палітыкі Амэрыканскага Камітэту й да творанага ім супольнага з расейцамі палітычнага цэнтру. У гэтым мэмарыяле ён просіць прыняць Беларускую Цэнтральную Раду ў склад «каардынацыйнага цэнтру» й вызначае сваіх прадстаўнікоў у васобах Арэхвы й Вярбіцкага. Тут Астроўскі зьяўляецца ўжо станоўчым антырасейцам, заяўляе, што ён заўсёды праводзіў супрацьрасейскую палітычную лінію, паклікаючыся на тое, што з прычыны сваей антырасейскасьці ён у свой час не пагадзіўся з праскім маніфэстам Уласава.

Яшчэ больш пікантным ёсьць тое, што ў гэты-ж самы час, пад канец чэрвеня сёлета, Астроўскі за пасярэдніцтвам таго-ж Беларускага Вызвольнага Руху складае такі самы мэмарыял і ў цэнтральны камітэт Антыбальшавіцкага Блёку Народаў (АБН), просячы прыняць у склад АБН сваю Цэнтральную Раду й задэкляроўваючы сваю поўную салідарнасьць зь бескампрамісовым і найбольш скрайным антырасейскім кірункам АБН.

Уявеце сабе ступень ідэйнасьці, палітычнай прынцыповасьці, пасьлядоўнасьці й саліднасьці людзей і іхнай арганізацыі, якія ў той-жа самы час задэкляроўваюць сваю палітычную салідарнасьць, ідэалягічнае аднадумства й супрацоўніцтва з трыма зусім супярэчнымі арганізацыямі, якімі ў свай праграме й практычнай дзейнасьці зьяўляюцца Амэрыканскі Камітэт і расейскія палітычныя арганізацыі з аднаго боку, і ўкраінскія бандэраўцы з АБН і УНРада — з другога.

Але найбольш пікантным ёсьць факт, што, як даведваемся з зусім пэўных крыніцаў, украінцы з АБН і таксама сп. Андрыеўскі скваспна хапіліся за афэрту Астроўскага й зарэзэрвавалі яе, каб у выпадку патрэбы мець у васобе Астроўскага «дастойнага» сабе партнэра. Нам астаецца тады толькі пажадаць як адным, так і другім поўнага посьпеху.

### АДЗІНАЙ МЭТАЙ — ПАЛІТЫЧНАЯ ДЫВЭРСЫЯ

На першы пагляд уся гэтая нязвычайная гібкасьць і палітычная эквілібрыстыка Астроўскага выглядае вельмі камічна й ня мае сабе падобных прыкладаў у цэлай гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Выглядае, што яна вынікае з буйнай фантазыі й авантурыстычнага характару самога Астроўскага.

Але гэта толькі на першы пагляд. Бо калі праанялізуем усю дзейнасьць Астроўскага, дык пабачым, што яна ёсьць сьвядомым сыстэматычным уношаньнем дывэрсыі ў беларускі нацыянальны рух, ёсьць здэцыдаваным шкоджаньнем беларускай справе, як на вонкавым, гэтак і нутраным адрэзку.

На вонкавым фронце дзейнасьць Астроўскага была заўсёды накіраваная на тое, каб аслабіць, разьбіць і спаралізаваць усе беларускія намаганьні забясьпечыць найбольш выгодныя й адказваючыя нашым нацыянальным інтарэсам пазыцыі. Калі сяньня на прапанову амэрыканцаў вядуцца беларусамі перагаворы з Амэрыканскім Камітэтам у справе прыступленьня да супольнага антыбальшавіцкага фронту, калі вядзецца ў гэтай плошчы цяжкае, але станоўчае змаганьне з расейскімі арганізацыямі з мэтаю загарантаваньня найбольш кардынальных нашых нацыянальных пазыцыяў, Астроўскі гойнай «прэзыдэнцкай» рукой прапануе сваю згоду даслоўна на ўсё, чаго толькі дамагаюцца расейцы. Дык і ня дзіва, што ўсе чатыры расейскія арганізацыі прапануюць сяньня Амэрыканскаму Камітэту ўвесьці ў плянаваны супольны цэнтр групу Астроўскага й гэтым самым разьвязаць пытаньне ўдзелу ў ім беларусаў.

Падобныя дывэрсыі рабіў Астроўскі на эміграцыі ўжо не адзін раз. Калі ворганы БНР пасьля вайны вялі перагаворы з польскім лёнданскім урадам і сваё супрацоўніцтва з палякамі узалежнівалі ад вызнаньня імі бясспрэчнага права беларускага народу на дзяржаўную незалежнасьць у ягоных этнаграфічных межах, г. зн. і на землях Заходняй Беларусі, на якую прэтэндуюць палякі, Астроўскі выступіў тады да палякаў з афэртай, зусім падобнай да афэрты, зложанай цяпер расейцам. Апіраючыся на свае паўнамоцтвы, быццам дадзеныя яму г. зв. другім Беларускім Кангрэсам ( а якія фактычныя былі дадзеныя гэнэралам СС фон Готбэргам), ён тады пісаў польскаму прэзыдэнту У. Рачкевічу даслоўна наступнае: «Swemi pełnomocnictwami mógłbym wzmocnić stanowisko Polski wobec Kresow Wschodnich na forum miedzynarodowym». Па беларуску: «Сваімі паўнамоцніцтвамі я мог-бы ўзмоцніць пазыцыю Польшчы на міжнароднай арэне ў справе «Ўсходніх Крэсаў» (г. зн. Заходняй Беларусі. Глядзі артыкул «Хто больш дасьць», «Беларускі Эмігрант», № 7 (29) за 26. 8. 1950). Хаця такая прапазыцыя была палякам вельмі карысная, прэзыдэнт Рачкевіч не ўважаў аднак за адпаведнае ня толькі зь яе скарыстаць, але навет адказаць на пісьмо Астроўскага, ведаючы, што ўваходзячы ў дачыненьні з такім авантурыстым, як Астроўскі, толькі сябе гэтым скампрамітаваў-бы, тым больш, што, будучы даўгалетнім віленскім ваяводам перад вайной, Рачкевіч вельмі добра ведаў, хто такі Астроўскі.

Калі-ж пазьней урад БНР вёў перагаворы зь летувіскім эгзыльным урадам у справе дружбы й супрацоўніцтва й калі ў справе беларуска-летувіскае мяжы беларусы станоўча адкінулі летувіскія прэтэнсыі на беларускую Вільню й Віленшчыну, Астроўскі ўмешываецца й у гэтую справу. Ён зьмяшчае ў № 6 (27) зарубежніцкага ратагарнага воргану ў Ангельшчыне «Аб'еднаньне» свой артыкул «Гранічныя спрэчкі беларусаў зь іхнымі суседзямі ды спосаб іх вырашэньня», у якім прапануе адступіць будучай Летуве вялікія беларускія тэрыторыі на захад ад чыгуначнай лініі Беласток—Дзьвінск уключна зь Вільняй. Ня гледзячы на такую шчодрую прапанову, таксама й летувіскі ўрад не пайшоў на супрацоўніцтва з Астроўскім, разумеючы, што гэтым страціў-бы сваю павагу й абнізіў-бы свой аўтарытэт.

Ня ў меншай меры зарысавалася дывэрсыйнасьць дзейнасьці Астроўскага й на фронце нутраным. Ужо той факт, што на сваім багатым палітычным канце ня можа выказацца Астроўскі даслоўна ніводнай пазыцыяй пазытыўнай, але толькі нэгатыўнымі, разбуральнымі й дэструкцыйнымі, зьяўляецца найбольш вымоўнай характарыстыкай гэтага чалавека. А апошняя ягоная акцыя з мэтаю кампраматаваньня й дэмаралізаваньня беларускіх вайскавікоў мае выразна праступны й нячуваны ў сваей пэрфіднасьці характар. Паймення, ён сяньня, уважаючы сябе «прэзыдэнтам», шчодра раздае афіцэрскія чыны, ня толькі ня маючы права гэтага рабіць, але навет зусім ня прыдзержываючыся існуючых у цэлым сьвеце правілаў. Гэтак звычайныя жаўнеры, падафіцэры й навет людзі, што ніколі ня былі ў арміі, адразу атрымліваюць ад яго ступені капітанаў і маёраў. Вось для ілюстрацыі некалькі канкрэтных фактаў. Вяртаючыся з Аргентыны, калі гішпанскі ўрад ня даў яму навет транзытнай візы, яго спаткае на параходзе ў вадным зь гішпанскіх партоў ведамы авантурнік Рыжы-Рыскі. Астроўскі з удзячнасьці дае яму ступень маёра, тады, калі Рыжы-Рыскі пакінуў вайсковыя рады, маючы толькі ступень падафіцэра. Уладзімер Сенька з падафіцэра назначаецца Астроўскім таксама маёрам, а С. Серафімовіч капітанам, які быў дагэтуль толькі фэльдфэбэлям.

Такая палітыка можа мець толькі мэце скампраматаваць званьне бела[...] скага афіцэра й прадставіць яго ў [...]рыкатуральнай форме. Не дарма с[...] беларусаў у сувязі з гэтым п[...] анэгдот, што ў будучай беларускай арміі будзе зусім зрэдукаваная ступень радавога жаўнера й што армія гэная будзе складацца з адных толькі афіцэраў. І гэтую акцыю кампраматаваньня беларускіх вайскавікоў распачаў Астроўскі якраз тады, калі справа фармаваньня вайсковых аддзелаў з эмігрантаў з Усходу становіцца актуальнай, калі на гэтую мэту амэрыканскі кангрэс прызнаў ужо 100 мільёнаў даляраў, а рэспубліканская партыя выступіла з афіцыяльнай прапановай стварэньня г. зв. «Арміі Вызваленьня».

Мы ўважаем за непаважнае кідаць Астроўскаму закід, які ягоныя аднадумнікі й на ягоны загад кідаюць пад нашым адрасам, пішачы ў Амэрыканскі Камітэт, што «Абрамчык зьяўляецца ведамым, як шпіён НКВД-ГПУ», бо яшчэ ня маем на гэта дакумэнтальных дадзеных. Аднак усе ўспомненыя й няўспомненыя акты дывэрсыі Астроўскага сваім характарам і сваей накіраванасьцю дзіўна адказваюць усім бальшавіцкім патрабаваньням, адказваюць усім мэтадам бальшавіцкае дывэрсыі й ненасрэдна служаць бальшавіцкім праступным мэтам раскладу варожай ім дзейнасьці палітычных эміграцыяў з Усходу. Гэтага апошняга ўважаць за звычайны прыпадак мы, аднак, ня можам.

Некаторыя чужынцы, не арыентуючыся ў істоце справы, радзяць нам пагадзіцца з Астроўскім, неяк зь ім дагаварыцца й гэтым самым узмоцніць наш антыбальшавіцкі фронт, тым больш, што й сам Астроўскі выказвае цяпер такое жаданьне.

На такую прапанову наш адказ можа быць толькі адзін. Калі-б Астроўскі ў дачыненьні да нас тварыў палітычную апазыцыю й калі-б гэтая апазыцыя была вельмі навет скрайная, мы ўсімі сіламі імкнуліся-б да такога паразумленьня, пайшлі-б на далёка йдучыя кампрамісы й напэўна прыйшлі-б да такога паразумленьня й супрацоўніцтва. Але Астроўскі, на жаль, не зьяўляецца ніякай палітычнай апазыцыяй ані ня творыць нейкай паважнай палітычнай групы. Сяньня ён выстаўляе сябе амэрыканафілам, нядаўна быў германафілам у гітлераўскім выданьні, раней быў камунафілам, некалькі разоў палянафілам і русафілам. Астроўскі — гэта не палітычны дзеяч, ня прыхільнік тае ці іншае палітычнае арыентацыі, ня вызнавальнік тае ці іншае ідэі, але палітычны авантурнік найгоршага гатунку. У залежнасьці ад каньюнктуры ён ужо зьмяніў многа гаспадароў, якім у свой час верна служыў. Дык ці-ж можа быць хоць найменшая гарантыя, што ягоны эвэнтуальны новы гаспадар, за якога хоча выбраць амэрыканцаў, будзе гаспадаром апошнім?

**Язэп Каранеўскі.**

# Земляробства й сялянства у БССР

(Працяг)

### УЗБУЙНЕНЬНЕ КАЛГАСАЎ І АРГАНІЗАЦЫЯ КАЛГАСНАЙ ПРАЦЫ

Злучэньне калгасаў у вялікія гаспадаркі было праводжанае бальшавікамі цэлы час ад пачатку калектывізацыі. Паводля Энгельгардта («Вайсрутэньен», 298 бал.) у 1935 годзе ў БССР было 11.801 калгас. Было тады скалектывізаваных 619.300 сялянскіх гаспадарак — 79% усіх сялянскіх гаспадарак у краіне. Калгасы мелі 2.981.700 га паверхні. А ў 1936 годзе было ўжо толькі 9.620 калгасаў, але яны абыймалі ўжо 677.200 сялянскіх гаспадарак — 87% усіх, ды меншая цяпер колькасьць калгасаў мела болей зямлі — 3,218.600 га. Звычайна калектывізацыя пачыналася ад злучэньня некалькі гаспадарак у вёсцы й даданьнем да гэтага земляў раскулачаных гаспадароў. Таму шмат у якіх вёсках зьяўляліся па два калгасы. Па годзе-двух іншыя гаспадары «прасілі» прыняць іх у калгас і гэтак злучалася ўся вёска, а разам з тым — і некалькі калгасаў у вадзін. Здаецца амаль усюды да апошняй вайны адзін калгас абыймаў толькі адну вёску. Толькі дзе-нядзе злучаў калгас таксама меншую суседнюю вёску ў супольную гаспадарку.

Паводля назіраньняў камасаваных вёсак у Заходняй Беларусі сярэдня было ў вёсках ля 500 душ ды каля 350 га зямлі (асабітыя назіраньні ў Наваградчыне ў 1930—1939 г. г.). Калі параўняць гэтыя лікі з падобнымі з калгасу Кірава Аршаншчыны, дык выходзіць, што калгас аб'ядноўвае напэўна 7 вялікіх вёсак, а магчыма й больш. Прыблізна й калгаснага насельніцтва павінна быць каля 3.000—4.000. Хаця калісь падавалася, што ў СССР ёсьць каля 56% працаздольных, але ў паваеннай БССР будзе іх бязумоўна меней, а больш дзяцей, інвалідаў, старых. Таму калгас Кірава павінен мець каля 1.500—2.000 працаздольных. Вылічэньне такое падчырквaецца некаторымі дадзенымі з бальшавіцкіх жаролаў. Прыкладам, паводля «Зьвязды» за 9. 5. 1952: у калгасе Молатава Асіпавіцкага раёну на мітынг дзяржаўнай пазыкі «сабралася звыш 500 калгасьнікаў», якія падпісаліся, зразумела вельмі радасна, на новы «заём». У іншым калгасе Дунілавіцкага раёну (Глыбоччына) выходзіць на поліва лёну 500 калгасьніц і запэўненыя 200 касцоў на касавіцу.

Вайна зьніштожыла шмат вёсак, а калгасныя будынкі амаль усюды былі разабраныя, разваленыя. Бальшавікі выкарысталі гэтыя абставіны для поўнага абагульненьня зямлі ў вялікія гаспадаркі, як гэта прыкладна відаць у кал. Кірава Аршаншчыны. Такое ўзбуйненьне наступіла, як у старой БССР, так і прылучаных заходніх акругах, сьвежа скалектывізаваных. Пасьля вайны мела быць у цяперашняй БССР 9.779 калгасаў, якія якраз у 1950 годзе, як гэта было з кал. Кірава, былі ўзбуйненыя ў 3.226 («Бацькаўшчына», 15. 8. 51). Пры чым ня ўсе новыя калгасы злучаюць па 7 старых, як гэта робіць кал. Кірава. Шмат дзе ўжо даўно калгасы абыймалі большыя абшары, ці адумысна выдзеленыя ў гаспадарскую адзінку прыроднымі межамі рэкаў, дарогаў, лясоў. Кажны допіс намагаецца падчыркнуць карысьць ад узбуйненьня.

Тысячныя арміі калгасных работнікаў у кажным калгасе падзеленыя на трывалыя брыгады. За гэтую трываласьць змагаецца кажны допіс газэты. Брыгада зьяўляецца моцна спэцыялізаванай. Палявыя брыгады маюць, здаецца, больш асобаў, а гадаўляныя — меней. Прыкладам у вадным з калгасаў Ваўкавышчыны ў птушынай брыгадзе толькі дзьве дзяўчыны, што даглядаюць гусей і качак на калгасным азярцы. У лёнавых брыгадах ёсьць па 8—10 працоўных. Няма дадзеных аб спэцыялізацыі так-жа ў самой брыгадзе. Магчыма што й там адзін калгасьнік глядзіць за падсьцілам, іншы за даеньнем, іншы за кармленьнем, прыкладам у «малочнатаварнай фарме», затым дзеляць работу й спэцыялізуюцца ў драбніцах.

Успамінаецца часамі пра собскія машыны калгасаў. Найчасьцей аднак рухомыя машыны астаюцца собскасьцю дзяржавы й зьяўляюцца згуртаванымі ў МТС. Гараньне й большасьць мэханічнага ўрабляньня зямлі выконваюць МТС, а ручную працу — калгасьнікі собскімі рукамі. Нагляд за выконваньнем работы маюць аграномы раёнаў, МТС, а галоўна аграномы калгасныя. Із спрэчак трактарыстых з калгаснымі аграномамі ведаем, які нізкавартасны парк некаторых МТС, як шмат дзе машыны стаяць дзеля недахопу заменных частак. Прыкладам 11 сеялак Залескай і Радашкавіцкай МТС стаяць, а лён сеецца рукамі. Апрача МТС, калгасы дастаюць некаторыя машыны з раёну, як адумысную дапамогу. Галоўна тут гутарка аб трэярах ды сартавальнях насеньня.

Шмат дробных прадпрыемстваў вёскі цяпер улучаныя ў калгасы ці саўгасы. Прыкладам тое, што вылічаецца ў кал. Кірава, відавочнае й у некаторых іншых вялікіх калгасах. Амаль кажны калгас стараецца запрудзіць цяпер рэчку й мець свой млын і электроўню. Шмат калгасаў маюць пілярамы. Гэта аднак зусім ня сьветчыць аб лясных калгасных багацьцях. Калгасы могуць мець толькі малыя міжпольныя ляскі. Усе лясы БССР падпарадкаваныя ўсесаюзнаму міністэрству ў Маскве. Але бальшыня тарфянішчаў гаспадарыцца калгасамі. З крытыкі здабываньня торфу ведаем, што, прыкладам, вялікі калгас «Гігант» ля Бабруйска дае каля 10.000 тонаў торфу, але здабывае яго рэзаным спосабам, затым рукамі. Бальшавікі хваляцца выдуманьнем новага паверхнява-пластавога спосабу дабываньня торфу шляхам фрэзаваньня й пасьлядоўнага ссоўваньня падсушанай крышанкі. Гэты спосаб можа быць выкананы толькі моцнымі машынамі. Бадай для кал. «Гігант» негаспадарна запрашаць МТС на работу, калі калгасьніцкія рукі патрапяць таней выканаць здабываньне, а магчыма й хутчэй ды пэўней.

Вялікія калгасы хутка пераладжваюць сваю паверхню ў гаспадарскую цэласьць. Новы сад засаджваецца ў вадным месцы, гарод у другім, гадаўляныя фармы мусяць мець блізкі выпас і давоз кошанкі. Так-жа негаспадарна вазіць далёка гной, калі пры хлявох ёсьць даволі пустых земляў. Таму з кажным годам наступае што раз большая спэцыялізацыя-адумысьніцтва земляў калгасу. Празь веліч абшару атрымліваецца таксама зьмена краявіду й аколіцы. У некаторых мясцох будуць ужо ў гэтых гадох выпасавыя цэлыя квадратныя кілямэтры траваў, у іншых гароды, ці цэлыя вялізарныя прасторы пшаніцы, лубіну й г. п. Ужо ў кал. Кірава 440 га поля ляжыць пад травою, а гэта ёсьць амаль 4 з палавінаю кв. кілямэтры — поўны засяг вялікага краявіду.

Яшчэ ня ўсе калгасы моцна злучаныя. Як відаць з прыкладу кал. Кірава ў Аршаншчыне, пераладжаньне севазваротаў наступіла толькі на другі год узбуйненьня. Разбудова саду наступіць аж за тры гады пасьля. Скарочаньне колькасьці й скучаньне дазваляе чутчэй забясьпечыць калгасы ў прафэсыянальных прапагандыстых, як гэта справядліва падчыркнула «Бацькаўшчына». Таксама шмат лягчэй мець у кажным калгасе агранома з вышэйшай асьветаю, зоотэхніка, а нат вэтэрынара. Звычайна аднак наступае «вымена» вучоных, таму ў беларускіх калгасах найчасьцей бываюць аграномы з унівэрсытэтаў іншых саюзных рэспублікаў.

### ВЫТВАРАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА

Ужо з допісу з калгасу імя Кірава Аршаншчыны відаць зьмена ў калгасным земляробскім вытвараньні. Забавязаньні калгасьнікаў зьняць вялікі ўраджай яшчэ не абазначаюць, што ён будзе такім зьняты. Але для таго, хто знае бальшавіцкія абставіны, ведама, што калгасьнікі мусяць із скуры вылезьці, а выканаць забавязаньне. За нявыкананьні будзе адказваць толькі часткова пагода, а перадусім атрaном Карыткін, старшыня Салтановіч ды брыгадзіры. Таму будзе вялікі ціск на калгасьнікаў і ўраджай будзе зблiжаны да забавязаньняў. Так-жа плянаў у бальшавікоў не падаецца на вецер. А паводля пляну ў 1952 годзе мае быць асягнуты ўраджай з аднаго гэктара жыта: каля 15 цэнтнараў (90 пудоў) у Гарадзенскай, Полацкай, Віцебскай, Маладэчынскай, Менскай і Палескай акругах; 16 цэнтнараў (96 пудоў) у Баранавіцкай, Берасьцейскай, Бабруйскай, Магілёўскай і Гомельскай акругах; 17 цэнтнараў (100 пудоў) у Пінскай акрузе. Насеньня лубіну мае быць 14-16 ц. з га. Лёну кудзелі і семя па 4-4,5 ц., насеньня траваў — 1,5-2 ц. Махорку дае Гомельская й Палеская акругі па 18-20 ц. з га. Цукроўнікі прадбачаныя плянам у Гарадзеншчыне па 23 тоны з га. Адна карова павінна даць удою малака ад 1.500 літраў у Бабруйскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Маладэчынскай і Палескай акругах; ад 1.800 л. у Баранавіцкай акрузе. Для саўгасаў плян прадбачыць па 16 ц. збожжа з га, 15 тонаў бульбы, 3,5 т. сена ды надаіць па 3.500 л. малака з каровы («Зьвязда» 10. 6. 52).

Ураджайнасьць з аднаго гэктара бязумоўна паднялася ў прыраўнаньні да часоў зь перад першай сусьветнай вайны, а пагатоў да часоў паншчыны. Таму прыраўнаньні ў бальшавіцкай прэсе зьяўляюцца толькі беспадстаўным сама-

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Куды сягаюць палякі?

Калі хто трохі сочыць за ходам польскае палітыкі на эміграцыі, дык адразу заўважыць, што яна зьяўляецца нязьменнай у сваіх імпэрыялістычных імкненьнях да заходнябеларускіх земляў, называных палякамі «Крэсамі ўсходнімі». Цэлы прабег яе коціцца па тых самых рэйках, то ўзад то ўперад, ня робячы ніякіх поступаў. Гэты блудны палітычны кірунак, якога ў сваім шавіністычным засьлепленьні трымаюцца палякі, сяньня ці заўтра давядзе да поўнай кампрамітацыі іхнай эміграцыйнай палітыкі ў вачох заходня-дэмакратычнага сьвету. Бязумоўна, шмат якія палякі разумеюць такое хвальшывае палажэньне й бачаць у ім небясьпеку для собскіх нацыянальных інтарэсаў, але бальшыня ня можа сабе ўявіць будучай Польшчы бяз «Крэсув всходніх» — бязь земляў Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны.

У вабліччы сяньняшніх сусьветных падзеяў, калі йдзе зацятае змаганьне за правы чалавека, калі ўсе натугі паняволеных народаў кладуцца на разьбіцьцё бальшавіцкай турмы народаў, каб стацца вольнымі й незалежнымі, каб кажная нацыя, паводля хрысьціянскай маралі й заваяваньняў дэмакратызму, вяла сваё жыцьцё згодна сваіх традыцыяў і культуры, то польскія палітыкі, замест прылучыцца да гэтага змаганьня, у сваю чаргу імкнуцца паняволіць частку беларускага народу, будучы яшчэ самі ня вызваленымі. Яны дэмагагічна крычаць: «Бязь Вільні і Львова — справа не гатова».

Закранаючы гэтае пытаньне, хачу зьвярнуць увагу на больш цьвярозы голас аднаго польскага публіцыстага Вэруса ў Аргентыне, які ў сваім артыкуле «У сьвятле дасьветчаньняў нядаўнай мінуўшчыні», друкаваным у газэце «Глос Польскі» (Но. 2314 за 1 жніўня 1952), задзержываецца над пытаньнем польскай усходняй граніцы. Ён уважае, што гэтае пытаньне ёсьць вельмі важнае й цяжкае да палагоджаньня, тым больш, што ў колах урадавых Вашынгтону й Лёндану, як і ў грамадзкай апініі гэных краінаў, існуюць дзейнікі, што думаюць скарэй «аддаць» Вільню для Беларусі, а Львоў для Украіны, чымсьці іх «зьвярнуць» Польшчы.

Аўтар гэтых радкоў уважае, што сытуацыя Польшчы зьяўляецца шмат паважнейшай, чымсьці гэта выдаецца не аднаму паляку, які пацяшаецца купецкім меркаваньнем, што як ня ўдасца чагось здабыць тут, то ўдасца там. Але успомнены польскі публіцысты таксама стараецца зразумець, што ў міжнародным жыцьці нацыянальна-вызвольныя рухі падкапваюць ці, лепей сказаўшы, ужо падкапалі асновы польскіх імпэрыялістычных пасяганьняў, могучы ў будучыні пакрыўдзіць Польшчу — і тут, і там. Бачым, што некаторыя палякі разумеюць тады, у які тупік заходзіць іхная палітыка. Некаторыя, больш паступовыя й адважныя, хацелі-б пераставіць яе на іншыя рэйкі, але іх паўстрымоўваюць іншыя, што яшчэ хацелі-б быць собсьнікамі чужых тэрыторыяў.

Так ці іначай, па якой палітычнай дарозе ня ехалі-б палякі, то да беларускай Вільні ім ужо не дабрысьці. Дарэмна польскія палітыкі маячаць аб вялікай Польшчы зь перадваеннымі ўсходнімі граніцамі, дарэмна надзеяцца аднавіць усходнія межы, устаноўленыя Рыскім трактатам і загарантаваныя перадваеннымі дагаворамі з Ангельшчынай і Францыяй. Паводля іх выглядае, што, калі апошняя вайна разгарэлася ў сусьветную, то толькі ў вабароне іхнай мацарствовасьці, то гэтаксама калі ўспыхне й трэйцяя сусьветная вайна, дык толькі па тое, каб направіць крыўды палякам, прынесеныя ім Ялтай. Такая псыхалягічная хвароба бальшыні польскае эміграцыі зьяўляецца аж надта відавочнай.

Калі сяньня гаворыцца што раз болей аб вызваленьні паняволеных народаў і іхным праве на дзяржаўную незалежнасьць, калі ў рэспубліканскіх колах Амэрыкі паўстаюць праекты стварэньня «арміі вызваленьня» таксама з удзелам і беларусаў, дык, пэўне-ж, не па тое, каб беларускі жаўнер налажыў польскі мундзір і йшоў змагацца «за нашую й вашую вольнасьць», бо гэтая «вольнасьць» была для нашага народу косьцю ў горле, і ня штурмаваць Монтэ Касыно, але толькі й выключна дзеля вызваленьня беларускага народу.

Вось гэтыя апошнія імкненьні беларускага народу й ягоную нязломную волю да самастойнага й ад нікога незалежнага нацыянальнага жыцьця павінны напасьледак зразумець палякі й у залежнасьці ад гэтага пераставіць сваю ўсходнюю палітыку на цэлых 180 градусаў. Гэта ляжыць ня толькі ў інтарэсах нашых собскіх, але ў роўнай меры і ў нацыянальных інтарэсах палякаў. Трэзвыя польскія палітыкі павінны зразумець, што аднэй зь перадумоваў затрыманьня пры Польшчы здабытых ёю земляў заходніх ёсьць належнае ўпарадкаваньне ейных дачыненьняў з усходнімі суседзямі ў духу міжнароднай справядлівасьці, у духу вызнаньня правоў кажнага народу на ягоную вольнасьць і незалежнасьць, а ня ў духу імпэрыялістычнага захопніцтва. Палякі, калі ня хочаць яшчэ раз паўтарыць сваіх гістарычных памылак, якія былі аднэй з найважнейшых прычынаў многіх разьдзелаў Польшчы, павінны зразумець, што, пагнаўшыся за двумя зайцамі, можна не злавіць ніводнага.

**Буэнос Айрэс.**

**У. Ліскавецкі.**

**Др. ЯН СТАНКЕВІЧ**
пры ўчасьці
**АНТОНА АДАМОВІЧА**

# Некаторыя групы словаў беларускае мовы

### ПРАДМОВА

Групы беларускіх словаў, што гэтта друкуем, былі зьмешчаныя ў **«Маскоўска-беларускім слоўніку фразэолёгічным і прыказкаў»,** каторы быў надрукаваны ў Менску ў 1944 годзе перад самым надыходам бальшавікоў. Выдавецтва не забрала яго з друкарні, і дзеля таго ён сьвету не пабачыў, дарма што быў ужо надрукаваны. Дзеля гэтага фразы й прыказкі зь менаванага слоўнічка былі перадрукаваныя ў № 1 (6) навуковага часапісу «Веда» за 1952 год, а слоўныя групы друкуем у «Бацькаўшчыне».

У гэтай працы чытач знойдзе шмат незразумелых для яго скарачэньняў, за выясьненьнямі якіх пасылаем да ўспомненага 1 (6) нумару «Веды».

У камэнтарах да слоўнічка аўтар ужыў словаў і формаў, якіх «Бацькаўшчына» ня ўжывае. Таму дзеля практычных мэтаў Рэдакцыя зрабіла некаторую карэкту аўтаравае мовы.

**Рэдакцыя**

**Абед і палудзень.**

«Абед» і «палудзень» розьняцца міжсобку ня якасьцяй і колькасьцяй ежы, але парою. Калі ад 8—9 гадз., дык гэта абед, а калі ад 12—14, дык палудзень. Апрача таго **палудзень, паўдзён,** або **паўдня** абазначаюць час (каля 12-цёх гадзінаў удзень) і месца на зямной кулі.

**Адклад і адвалока.**

**Адклад, адкладаць, адкладаньне, адлажыць** ужываюцца тады, калі перaносіцца на пазьнейшы час вызначаны тэрмін спаўненьня чагось. Прыкладам, суд вызначаны быў на дванаццатага чэрвеня, а яго адлажылі на 10-га ліпеня; вясельле вызначана было на мясаед, а яго адлажылі на вясну; канцэрт меў быць у ваўторак (другадзень), а яго адлажылі на сыботу. **Адклад** = отсрочка, отлагательство; **адкладаць** = отлогать; **адлажыць** = отсрочить. Прыклад: **Адклад ня йдзе ў лад.** АШ.; НСЛ. 374.

**Адвалока, адвалакаць, правалакаць** ужываюцца, калі ніякі тэрмін не парушаецца, бо яго яшчэ ня было, але **адвалакаецца** (= м. медлится, замедляется) вызначэньне самога тэрміну спаўненьня чагось ці проста спаўненьне чагось адвалакаецца. **Адвалока** = м. промедление, п. zwłoka; **адвалакаць, правалакаць** = м. медлить, замедлять, п. zwlekać; **адвалаканьне** — медление, замедление — zwlekanie; **неадвалочны** — немедленный, natychmiastowy.

Прыклады із СТТ.: **галаўшчына... маецъ быці плачона й адправена[1]) без адвалокі.** 73—25; **Справядлівасьць неадвалочную на заўтрае-ж, а надалей трэцяга дня маем удзелаці.** 73—5; **Справядлівасьці неадвалочнае паступкам права даводзіці маюць.** 91—25; **будзем павіньні кажнаму з падданых нашых каму-бы шло а чэсьць, неадвалочную справядлівасьць учыніці на першым сойме вялікім бяз усякае адвалокі.** 93—27. **Ваявода маецъ справядлівасьць чыніці і адправу** (экзэкуцыю) **на віннам, не правалакаючы.** 105—34.

[1]) Слова паходзіць ад «права» і значыць спoўніць «рассудак» («решение») суду, зрабіць экзэкуцыю.

**Астацца, асталы і застацца, засталы; засьпець.**

**1. Астацца, аставацца** можна ад каго. Калі, прыкладам, ідуць і адзін ці колькі не пасьпяваюць зыйсьціся зь іншымі, дык яны **астаюцца, асталіся,** г. зн., што яны йдуць крышку ці шмат ззаду за іншымі, пярэднімі, а ня роўна з усімі. Можна аставацца, астацца ў рабоце — жнучы, косячы, вучань можа астацца ў вучэньні. Можна астацца культурна. Менаванаму дзеяслову адказвае м. «отстать», п. pozostać (z tyłu od kogo). І пабеларуску кажацца **адстаць,** але ў накшым значэньні: можа адстаць тынк, папера ад сьцяны і пад.

Разгляданы дзеяслоў агульна пашырыўся, запісаны між іншага ў АШ., ВАЛ., ужывае яго таксама ЗСД, прк.: Халіма... быццам хацеў уцячы ад Лясьніцкага, або падражніцца, прымусіць прабегчы трушком, каб не **астацца.** 20.

Дзеяпрыметнік ад «астацца» — **асталы** = отсталый, pozostały z tyłu (od kogo) ужываецца між іншага ў «Аль кітабе», прк.: Заўсёды **намаз[2]) із азанам[3]) кланяціся трэба, хоць-бы асталыя намазы.** 88 б. 4.

**Асталасьць** — отсталость, zacofanie.

**Асталец** — реакционер zacofaniec.

**2. Застацца, заставацца** можна дзе. Застацца, заставацца дома, у лесе, заграніцай (= м. остаться, п. pozostać). Прыклады: **бяз хлеба застанемся.** ЛНЧ. 21; **усё, што засталося ад уцякацтва.** ЛНЧ. 22; **Колькі там мукі мне засталося,** ЛНЧ, 33; **У дзьвёх із Любаю засталася Агапа.** СЫН 21. **Сэрца чарсьцьвела... толькі адно пачуцьцё й засталося ў ім — матчынае каханьне.** СЫН 23. **Застаецеся вы? — застаёмся.** Кушалёў: У ЗЯЛ. ДУБРОВЕ, 38.

[2]) Слова арабскае, значыць «малітва».

[3]) Азан, слова араб. = кліканьне на малітву.

Дзеяпрыметнік ад «застацца» — **засталы** = оставшийся, остальной, pozostały. Прыкл.: **для ўсякіх межы патомкі засталымі розьніц.** ЗАПІС 1563 г. (Пташыцкій: Князья Пузыны, 60); Што-бы меў на сту падводах да места нашага галоўнага еміны, ад выхаваньня яго **засталае,** для продажы пасьлаці, то мэжа... вадзяным пуцём... адправіці. СТТ. 98; жане яго з усяе маемасьці, **па ём засталае,** маецъ быці вудзелена трэйцяя часьць. СТТ. 299-20.

Тое-ж значэньне мае прадметнік **засталец.** Гэтак, калі часьць жывёлы рэжуць на мяса, дык на тых, што застаюцца жывымі, кажуць **засталцы.** І зычэньне пры гэтым ёсьцека: **«Пасі, Божа, засталцы!»** (ШЭЙН).

У некаторых гаворках мовы народнай «астацца, асталы» і г. д. ужываецца ў вабодвых прыведзеных значэньнях, у іншых, наадварот, «застацца, засталы» і г. д. (значыцца із з на пачатку) мае абодвы значэньні.

Адцемім, што м. «отстань!» адказуе белар. «адчапіся!», або «адкасьніся!».

Зацемім яшчэ, што «астатні» ня можна ўжываць у значэньні «засталы» (= м. «остальной»), ані ў якім іншым значэньні, бо «астатні» палянізм і паўднёва-ўсходні беларускі правінцыялізм, дзе = «апошні».

**Засьпець, засьпяваць.** У значаньні м. «застать» і п. zastać ёсьць беларускае **засьпець, засьпяваць.** Прыклады: **Трэба сьпяшацца, каб засьпець яго дома.** СЬП., Н. РУДНЯ ВЯЛ.; КЛЮШЧАНЫ СЬВ. **Я засьпела сяброўку дома.** ПОСТАЎЕ; ВОЎКАВЫШЧЫНА ЛЯ ГЛЫБОКАГА. ІЗ ЗСД.: **Ён засьпеў яе дома,** і яна навет узрадавалася, што ён прыйшоў. 216; Нешта раз Лясьніцкі **засьпеў** яе асабліва ўстрывожаную. 236; Л. ізноў зайшоўся да Ніны і на сваё вялікае дзіва **засьпеў** там Андрэя. 319; **У пачатку восені вярнуўся Л. у места, ён засьпеў там надзвычайна нэрвовы, мятушлівы настрой.** 349; **Л. часта засьпяваў яго тупа застыглага.** 317.

**Вялікі, вялізны, вялізарны, вялізманны, вяліза, велічныя, увелькі, веліч, узьвялічаць, вялічны.**

1. М. «большой» і «великий» адказвае ў беларускай мове адно — **вялікі;** кажацца **вялікі камень, вялікі конь, і Ўсяслаў Вялікі, Вітаўт Вялікі** і пад. Але ў ступенях прыраўнаньня ёсьць ужо дзьве формы — **большы, найбольшы,** што адказвае м. «большой, самый большой», і **вялікшы, найвялікшы,** адказваючыя м. «величайший». Прк.: «величайшее произведение искусства» — **найвялікшы мастацкі твор.**

Кажацца заўсёды **вялікі дождж, вялікі град, вялікі сьнег, вялікая мяцеліца, вялікі віхор, вялікі вецер, вялікая сьцюжа, вялікі мароз, вялікая гарачыня** (а ня «сільны дождж» і г. д.), таксама кажацца **вялікае аканьне.**

Кажацца такжа **вялікае пачуцьцё, вялікае ўражаньне, вялікая любоў, вялікі боль** (= м. «сильное чувство, впечатление»).

Гэтак ня толькі ў цяперашняй, але і ў мове даўнейшай. Прыклады: **Дождж вялікі йшоў.** АЛЬ КІТАБ 80 і 11; **ангелы плакалі голасам вялікім.** Тм. 95 і 4.

Слова «сільны» ў беларускай мове цяпер нямашака, хоць аднакарэнныя зь ім **сіла, сілком** (= м. насильно, п. gwałtem), **асілак** (= м. богатырь, п. herkules, potentat fizyczny), **дужасіл** (= м. силач, п. siłacz, atleta), **сілкавацца** (= м. покрепляться пищею) і некаторыя іншыя ёсьць. М. «сильный» у фізычным значэньні адказвае беларускаму **дужы (дужы чалавек, дужы конь, вол).**

М. «крупный» адказвае ў беларускай мове **буйны** (націск на **ы**), а крупны (націска на **ы)** пабеларуску значыць «маючы крупы — стрыхніну» **(крупны кабан, парсюк)** «Буйны» ў беларускай мове мае толькі канкрэтнае, фізычнае

